


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі!* **Францішак БАГУШЭВІЧ**

# НАША СЛОВА

**№ 7(17) • 3 — 9 КРАСАВІКА 1991 •**

**Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**
**Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)**


*Пятрусь МАКАЛЬ*

## З матчыным словам

*Цудам атулены,*
*Гоіце беды вы,*
*Словы матуліны,*
*Бацькавы, дзедавы.*
*Словы, што слухаю,*
*Продкамі дадзены,*
*Як папрадухаю,*
*Праўдаю спрадзены.*
*Слова —*
*Для радасці рупнае*
*Повад,*
*Слова —*
*З былога ў наступнае*
*Провад.*
*Мова —*
*Скарбонкавы*
*Збор шматвяковы,*
*Водар рамонкавы,*
*Хор ва'ільковы.*
*Шлях свой асвецім*
*Словам, як промнем,*
*Пра гэта і дзецям,*
*І ўнукам напомнім.*
*Слова —*
*Выснова*
*Боскага царства,*
*Мова —*
*Замова*
*Ад зла і махлярства.*
*Мова —*
*Сумлення*
*Шчырая споведзь,*
*Душ і малення*
*Вечная повязь.*
*Вось і вясло вам,*
*Якому паверце:*
*З матчыным словам —*
*Рух у бяссмерце!*



## *У суполках ТБМ*

Гародзенская гарадская Рада ТБМ у 1990 годзе правяла пасяджэнне, на якім разглядаліся пытанні беларускіх школ і дзіцячых садкоў, беларусізацыі навучальнага працэсу ва універсітэце, беларускай візуальнай і гукавой інфармацыі ў горадзе. Па ініцыятыве Рады праведзены вечарыны, прысвечаныя памяці Ф. Багушэвіча, Л. Генюш, М.-Кл. Агінскага, М. Багдановіча, Я. Карскага.

Шмат увагі ўдзялялася школе. Вынікам шматлікіх патрабаванняў, спрэчак з'явілася пастанова гарвыканкома ад 20 чэрвеня 1990 г. аб адкрыцці ў горадзе 23-х беларускіх школ (усяго школ — 30), г. зн., што ў гэтых школах павінны былі адкрыцца ўсе беларускія першыя класы. Але адкрылася ўсяго 40 беларускіх класаў, а праз месяц засталося — 20. Прычына — двоеўладдзе ў горадзе.

Настойлівыя захады Рады ТБМ паспрыялі адкрыццю ва універсітэце імя Я. Купалы кафедры беларускай культуры. Тут прынята пастанова аб адкрыцці з новага навучальнага года факультэта беларускай філалогіі і культуры. Марудна ідзе працэс пераходу навучання на беларускую мову.

Рада супрацоўнічае з БНФ, клубам «Паходня», фондам культуры, гарвыканкомам, з дэпутацкай апазіцыяй.

## Беларускае адраджэнне ў святле прэсы

### МІНСК

Цікавае і змястоўнае інтэрв'ю даў карэспандэнту газеты «Добры вечар» (№ 32) старшыня Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў, народны дэпутат Беларускай ССР А. М. Герасіменка.

— Цяпер, калі ў рэспубліцы пачаліся працэсы нацыянальнага адраджэння,— у прыватнасці, спытаў карэспандэнт,— які прыклад паказвае ў гэтым сталіца рэспублікі?

— Працэсы, якія зараз адбываюцца ў грамадстве і якім дала штуршок перабудова,— адказаў старшыня Мінскага гарсавета А. М. Герасіменка,— безумоўна ж, спрыяюць і нацыянальнаму адраджэнню. Хаця скажу шчыра: нягледзячы на прынятую Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР і Закон аб мовах, што ўступіў у дзеянне, па даным пытанні мы яшчэ, на жаль, не разгарнулі сапраўднай работы. Тое-сёе, вядома, робіцца, але ж як гэтага мала! Хаця было б несправядліва, каб я не ўпамянуў пра шырокую праграму дзеянняў у галіне культурнага і духоўнага развіцця, якую маюць пастаянныя дэпутацкія камісіі гарсавета па культуры, ахове і адраджэнню гісторыка-культурнай спадчыны (І. Чарняўскі) і народнай адукацыі (В. Кузьміч). Наша задача,— падкрэсліў старшыня Мінскага гарсавета,— каб гэтая праграма стала праграмай дзеяння для ўсіх нас... Перш за ўсё мінчане павінны ведаць гісторыю свайго горада, кожнай яго вуліцы, самага маленькага завулачка... Наблізім гараджан да гэтай гісторыі! А заадно пакажам, хто праяўляе марудлівасць у ажыццяўленні намечаных мерапрыемстваў па нацыянальнаму адраджэнню, у прыватнасці, у выкананні таго ж Закона аб мовах.

### БРЭСТ

«Народная газета» (№ 55) паведаміла, што ўсур'ёз успрынялі Закон аб мовах работнікі апарата райвыканкома Брэсцкага раёна. І выкананне яго пачалі з сябе. Цяпер кожную сераду ў канцы працоўнага дня яны практыкуюцца размаўляць і пісаць па-беларуску! Дапамагае ім у гэтым настаўніца Матыльскай сярэдняй школы Н. А. Кірылка.

## «ПАГОНЯ» І «АДРАДЖЭННЕ»



Дзевятнаццатага сакавіка ў Мінскім Палацы мастацтва адкрылася выстава мастакоў, якія ад нядаўняга часу аб'ядналіся ў суполку «Пагоня». У творчае аб'яднанне ўвайшлі больш за пяцьдзесят чалавек: жывапісцы, графікі, скульптары, мастакі-дэкаратары. У кожнага з іх свая творчая манера, свой накірунак. Аднак лучыць мастакоў «Пагоні» ідэя адраджэння Бацькаўшчыны. Таму і выстава мае назву — «Адраджэнне».

НА ЗДЫМКУ: у часе выставы ў Мінскім Палацы мастацтва.

Фота Уладзіміра КРУКА.

*Рэха* *Рэха*

## РАЗУМЕЦЬ РЭАЛЬНАСЦЬ!

Калі ці не найбольшым аўтарытэтам ў пытаннях развіцця беларускай дзяржаўнасці ў старажытныя часы ў рэспубліцы карыстаецца гісторык і пісьменнік Мікола Ермаловіч (апошняе сведчанне таму — хуткае знікненне з прылаўкаў у Мінску яго новай кнігі «Старажытная Беларусь»), то па праблемах мовы і нацыянальнай самасвядомасці нашага народа ўсеагульную цікавасць выклікаюць публікацыі доктара гістарычных навук Леаніда Лыча. Не абмінула чытацкая ўвага і яго вялікі артыкул ў «Народнай газеце» ад 12 сакавіка —«Шматнацыянальныя дзяржавы: цярністы шлях выжывання». Прасочваючы ў гістарычным часе ўзнікненне і разбурэнне найбольш вядомых у свеце імперый, вучоны яшчэ раз пацвярджае гістарычную непазбежнасць працэсу выспявання адзіна-нацыянальных дзяржаў і імкнення іх да суверэннасці, незалежнасці існавання. І толькі разышоўшыся, як цяпер модна стала з кплівасцю гаварыць, па «нацыянальных кватэрах», такія дзяржавы-рэспублікі змогуць следам «рухацца да больш цеснага аб'яднання», але ўжо на зусім іншых, чым раней, умовах. Як прыклад такога саюза вучоны прыводзіць асацыяцыю дзяржаў Паўднёва-Усходняй Азіі (АСЕАН), куды ўваходзяць Сінгапур, Інданезія, Малайзія, Тайланд і Філіпіны, дзе за апошняе дзесяцігоддзе дасягнуты каласальны эканамічны і сацыяльна-культурны прагрэс. «Пры ўступленні ў такую асацыяцыю,— заўважае вучоны,— ад ніводнай з дзяржаў не запатрабавалася пайсці на нейкае там ахвяраванне ці абмежаванне нацыянальных інтарэсаў, наданне чыёйсьці мове статута адзінай дзяржаўнай для ўсіх і г. д. Як і да гэтага, кожная з дзяржаў асацыяцыі... ладзіць сваё жыццё паводле законаў, з захаваннем нацыянальных традыцый, бо створаныя сумесныя пастаянныя камітэты па харчаванні і сельскай гаспадарцы, па гандлі і прамысловасці, транспарце, навуцы і культуры і г. д. так будуюць сваю дзейнасць, што не падмяняюць мясцовыя органы, а ажыццяўляюць у адпаведнай галіне толькі агульную каардынацыю дзейнасці дзяржаў-саўдзельніц...» Аўтар таксама выказвае занепакоенасць, што тая мадэль «абноўленага» Саюза, які імкнуцца стварыць у нас, будуецца на зусім іншых падставах і што пры сённяшніх умовах «найбольш праблем нацыянальна-культурнага парадку ўзнікае для нас, беларусаў». А ўсё гэта непазбежна створыць у далейшым і эканамічныя праблемы. «Практычна,— піша вучоны,— сёння мы не можам уступіць у Саюз як роўныя з роўнымі, бо мы і сапраўды з імі зусім няроўныя, мы, беларусы, больш за паўстагоддзе развіваліся не паводле нацыянальнага стандарту і пры вельмі істотных парушэннях правілаў нармальнага жыцця любога этнасу. Беларусь проста нельга без адпаведнай падрыхтоўкі выпраўляць у людзі, інакш мы зусім растворымся, і тады ўжо ніякая сіла нас не з'яднае ў адзіны жывы нацыянальны арганізм», бо рынačная стыхія можа, калі не назаўсёды, то на даволі працяглы перыяд зрабіць асноўным крытэрыем узаемаадносін паміж людзьмі прыбытак і эканамічную рэнтабельнасць.

Можна тут не зусім пагаджацца з меркаваннем вучонага, бо стыхія нацыянальнага аб'яднання таксама магутная, аднак прыслухацца нашым заканадаўцам да папярэджання вядомага вучонага было б вельмі карысна.

«Жыццёвая неабходнасць для Беларусі,— заўважае гісторык, — перад тым, як заключыць Саюзны дагавор, хоць бы ў самых мізэрных памерах насыціць сваё ўнутранае жыццё нацыянальнымі пачаткамі». Гэта, працягвае ён, «зусім не азначае, што рэспубліка, на патрэбны для гэтага час, павінна рашуча перасекчы ўсе тыя эканамічныя сувязі, якія ўсталяваліся ў яе за больш чым сямідзесяцігадовы перыяд. Такога ў цяперашняй практыцы проста не бывае. Астраўная Японія, да прыкладу, мае куды больш разгалінаваныя сувязі з сусветнай капіталістычнай эканомікай, чым любая саюзная рэспубліка з СССР», тым не менш такая сувязь Японіі «захоўваецца пры поўнай палітычнай і нацыянальна-культурнай незалежнасці».

«Калі даводзіцца чуць ці чытаць,— піша ў заключэнне вучоны-гісторык,— што мы тут жа загінем, калі не ўступім у Саюз, дык, прызнацца, становіцца вельмі непрыемна, што некаторыя так нізка ставяць свой народ, які... «не ў такіх ужо спрыяльных умовах сярэднявечча даказаў здольнасць мець сваю дзяржаву, быць добрым гаспадаром у роднай хаце».

Словам, падумаць нам ёсць над чым.

Э. Я.

*Падумаем разам*

# «ТАРАШКЕВІЦА»? «НАРКОМАЎКА»? «СКАРЫНІЦА»?..

Ужо не першы год назіраю, як вольна абыходзяцца некаторыя аматары пяра з сучасным беларускім правапісам, шмат чаго адмаўляюць у ім, заклікаючы да арфаграфічных норм, выпрацаваных яшчэ Браніславам Тарашкевічам у «Беларускай граматыцы для школ». Памножыліся апошнім часам наракanні, скіраваныя, у першую чаргу, на рэформу 1933 года: паслярэформенны правапіс, маўляў, штучны, гвалтоўна навязаны беларусам функцыянерамі ад сталінскай сістэмы і шмат у чым пярэчыць законам сучаснага маўлення.

Шырыцца кола «рэфарматараў» пісьма, часцей з'яўляюцца публікацыі ў іх падтрымку. Адну з апошніх прачытаў у газеце «Свабода» (№ 3—4 за 1991 год) — «адзіным на Беларусі» (як мяркуе рэдакцыя) апазіцыйным выданні. Размова ідзе аб артыкуле «Пішам тарашкевіцаю», у анонсе да якога сказана: «І сёньня мы ўжо маем і публікуем першы разьдзел сучасных моўных Прынцыпаў (мабыць, Граматыкай гэта назваць яшчэ рана), якія дапамогуць нам і нашым чытачам лепш засвоіць мову Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Браніслава Тарашкевіча, **пазьбягаць хібаў і разнабою ў правапісе** (выдзелена мною —У. Л.).

Прачытаў назву артыкула — і падумалася: няўжо на поўным сур'ёзе нас заклікаюць перайсці на тыя правілы, якія сфармуляваў Браніслаў Тарашкевіч?

Няма сумнення: Тарашкевіч — рэдкі ў нашым айчынным мовазнаўстве талент, але нельга забываць, што ён быў першым, хто кадыфікаваў нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў падручніку, ішоў амаль па цаліку ў гэтай справе і, вядома, не змог пазбегнуць некаторых памылак. Ёсць хібы, разнабой і ў яго правапісе. Яны відавочныя. Іх бачылі сучаснікі вучонага — Язэп Лёсік, Вацлаў Ластоўскі і іншыя, хто ўзбудзіў грамадскасць Беларусі на правядзенне рэформы правапісу задоўга да 1933 года. Зрэшты, аб гэтым пісаў сам Б. Тарашкевіч у прадмове да перапрацаванага і дапоўненага выдання сваёй кнігі: «Аўтар «Беларускай граматыкі для школ» сам цяпер бачыць дужа выразна цэлую чараду яшчэ спрэчных пытанняў (у аканні, у правапісе чужаземных слоў і інш.), бачыць патрэбу і магчымасць спрашчэння правапісу, але не бярэцца праводзіць якія-кольвечы паважнейшыя змены такім індывідуальна-партызанскім спосабам, накідаючы свой праект праз школьны падручнік. Гэта павяло б толькі да шкоднага хаосу.

Бо тутака паспех, запраўды, можа быць людзём на смех».

Не збіраюся пераконваць працiўнікаў сучаснай беларускай арфаграфіі (сам добра бачу ў ёй недахопы), не прэтэндую ні ў якім разе на ісціну ў апошняй інстанцыі. Хачу толькі паразважаць... Да якога ж правапісу заклікае нас паважаны мною аўтар артыкула «Пішам тарашкевіцаю» Вінцук Вячорка?

«Тарашкевіца прасьцейшая ад наркомаўкі (паслярэформеннага правапісу — **У. Л.**), бо ў ёй куды менш выключэньняў, да яе амаль заўсёды стасуецца прынцып «**як чуваць, гэтак пішацца — і наадварот**»,— сцвярджаецца ў артыкуле. Але дзе вельмі паслухаеш тое «як чуваць», калі лічаныя людзі гавораць на добрай беларускай мове? І хіба ўсе аднолькава чуюць? Зрэшты, калі нават дапусціць, што слых наш стане уніфікаваным і мы пачнём прытрымлівацца прынцыпу «як чуваць», не ўсё будзе простым на пісьме.

Прапануе, напрыклад, В. Вячорка вярнуцца да перадачы збегу зычных наступным чынам: «**чэх-чэСкі, Парыж — парыСкі, у Рызе — рыСкі, Узбецкая й КазаСкая рэспублікі, ГагауСкая праблема**». На маю думку, тут няма нічога добрага, бо прыйдзецца пісаць: у Рызе — **рыСкі і рыска — рысак — рыСкі, Луга—луСкі і луска—луСкі, касак — каСка і казак — каСка** і г. д. Значна ўзрасце ў маўленні колькасць слоў, якія па «тарашкевіцы» трэба пісаць аднолькава, хоць значэнні ў іх розныя. Больш верагоднай стане невыразнасць фармальна-сэнсавых адносін у мове, ад чаго нас засцерагае пакуль марфалагічны прынцып правапісу. Іншымі словамі — аднолькавая перадача састаўных частак слова на пісьме незалежна ад умоў іх вымаўлення (напрыклад, **француз — французскі, Бурж — буржскі, Філах — філахскі, Аянж — аянжскі**; параўнаем з «тарашкевіцаю»: **францускі, бурскі, філаскі, аянскі**).

А навошта вяртаць у сучасны правапіс выключэнні з правіла, пад якія нельга падвесці ні фанетычны, ні марфалагічны прынцып арфаграфіі: «**швэДЗкі, гараДЗкі, ірлянДЗкі**». На месцы ДЗ у гэтых словах гучыць Ц, утвораны яны ад асноў на **Д**, а не ДЗ, напрыклад: **горад+ск+і — гарадскі (вымаўляем — гарацкі)**. Няўжо дапамогуць такія напісанні «пазьбягаць хібаў і разнабою ў правапісе»?

Аўтар гаворыць, што трэба вярнуць мове мяккасць праз мяккі знак, пішучы: «сьвята, абедзьве, празь мяне, цьвёрды, сьцьвердзіць у Фроньце ды ў Кліўленьдзе». Няхай сабе — мо так і трэба. Толькі, думаю, варта было б вяртаць гэтую асаблівасць не толькі ў пісьмовую, але і ў вусную мову, бо нельга перадаваць правільна яе на пісьме, не ведаючы адпаведных законаў фанетыкі і арфаэпіі. Не бачу патрэбы ў мяккім знаку пры перадачы доўгіх мяккіх гукаў, напрыклад, у словах: **калосьсе, палозьзе, судзьдзя** . Ці добра праз нагрувашчванні ад трох да пяці знакаў передаваць адзін гук і арыентаваць чытачоў на вымаўленне двух гукаў на яго месцы? Той, каго не задавальняе ў даным выпадку сучасны правапіс, лепш ужо няхай карыстаецца знакамі фанетычнай транскрыпцыі н̄, с̄, л̄ і іншымі, пішучы: **насен̄е, калос̄е, вясел̄е** і г. д. Непрывычна? Але ж эканомна. І, відаць, што трэба вымаўляць на месцы новаўвядзенняў адзін доўгі мяккі гук...

«Чужаземныя (заходнеэўрапейскія) словы маюць **Л** мяккае, як і ў тых мовах, адкуль яны прыйшлі», — нагадвае нам адно з правіл «тарашкевіцы» В. Вячорка. Трэба пісаць: **калёна, плян, мэталь** і г. д. Няхай сабе такія адзінкі, «найперш лацінскія й нямецкія, траплялі праз жывы кантакт з носьбітамі гэтых моваў, праз масавае вывучэньне тае ж лаціны ў сярэднявечнай школе», але я на Беларусі не чуў, каб іх так вымаўлялі ў народзе. Не было б, скажу, у нашай мове цвёрдага **Л**, мо і зразумеў бы аўтара артыкула: мяккі знак, мяккае **Л**, іншыя мяккія зычныя — «спрадвечная мілагучнасць». Але навошта, вяртаючы мяккасць, уводзіць цвёрдасць у наступныя словы: **пэрыяд, мэтар, праспэкт, газэта, сынонім, унівэрсытэт, максымум, Бразылія, накturн, мініятура, нэўтральны (нейтральны)**? Няўжо гэта мілагучна?

«Тарашкевіцу ў цяперашнім яе выглядзе можна й трэба дасканаліць далей. Аднак перш яе трэба вярнуць», — гаворыцца ў артыкуле. Парадокс! Спачатку вяртаць у пісьмовае маўленне, а потым удасканальваць?..

Міжволі прыгадаліся англічане, якія пішуць сёння так, як гаварылі ў эпоху Чосера (XIV ст.) — заснавальніка англійскай мовы і літаратуры. Вымаўленне ў іх вельмі далёкае ад правапісу, таму і ўзнік, відаць, жарт: па-англійску пішацца **Манчэстэр**, а чытаецца **Ліверпуль**.

Падумалася, а што калі нам вярнуцца да правапісу не Браніслава Тарашкевіча, а Францішка Скарыны? Вунь якая там багатая моўная традыцыя! Калі перавучвацца, дык насмелюю! І назву можна хутка прыдумаць: **скарынка**. Відаць, не зусім добра, бо аднолькава гучыць з сінонімам да слоў: **скіба, луста, акраец**. Нічога — магчымы варыянты: **скарыніца, скарынаўка**...

Аднак не да жартаў. Давайце добра агледзімся, падумаем разам, каб не адвярнуць ад роднай мовы тых, хто сёння паволі, але ўпэўнена ідзе да яе.

Уладзімір **ЛАМЕКА**

*З рэдакцыйнай пошты*

# РАТУЙМАСЯ СМЕХАМ!

Што тут скажаш? Ко-ко — малайчына («І смех і грэх» — НС, № 1, 1991). Дасціпна і бліскуча сцебануў па струпянелай хваробе, якую Купала ў свой час назваў тутэйшасцю. Але мае развагі — не з падабенства, хутчэй з адрознення становішча беларусаў на пачатку і на схіле стагоддзя. Тады Мікіта-зноскаўскі сверб на целе беларускім не здаваўся занадта паўсюдным, заразлівым, хаця Прарок прадбачліва і засцерагаў нацыю ад віруснай небяспекі, стоенай у той жа, «между протчым», знасілаўшчыне.

З бегам часу сітуацыя змянілася карэнным чынам. Змены гэтыя — у палітычным, сацыяльным ўзлёце Мікіція Знасілава (У «Тутэйшых» Янкі Купалы ён яшчэ пісаўся на беларускі манер — Мікітам Зносакам). Некалішні калежскі асэсар, недалужны чыноўнік 14 разраду з заняпалага губернскага Менску дарваўся, як кажуць, да высокай, найвышэйшай нават улады, з пранцаватымі для Беларусі скуткамі (вынікамі). У Зносака — парламент з прэзідэнцтвам. У Зносака — партыя з усімі першымі, другімі, пятымі, дзесятымі... У Зносака — школа, інстытуты, універсітэты, акадэмія. У Зносака — прэса і ўсялякія там камунікацыі. Войска, міліцыя, бяспека — таксама у яго, Мікіція Знасілава. Словам, зацараваў-запанаваў наш Мікіта. Ну а каб цараванне было і стабільным і эфектыўным — растыражаваны зноскаў тып у безлічы кольказнай і калібравай, напічканы ім усе вертыкалі-гарызанталі, усе поры беларускага жыцця. Прэдыспазіцыя, павайсковаму кажучы, створана, сілы нарыхтаваны; у самы раз наступаць — здзяйсняць запаветны зноскаў ідэал. Памятаеце?

«Эх, каб я быў, между протчым, царом, завёў бы я ад Азіі да Аўстраліі, і ад Смаленску да Бэрліну адзін непадзельны рускі язык і жыў бы тады сабе прыпяваючы. А то круці галаву над языкамі, як баран над студняй» (Купала Янка. Тутэйшыя.— Полымя, 1988, № 8, с. 48). Праўда, аж так шырока — да Аўстраліі ці Афрыкі — справа не рушыла, порткі ў «ідэалістаў» завузкімі аказаліся. Затое ад Смаленска да Брэста задуманы праект здзейсніўся «на выдатна». З безлічы хімерычных праграм (уключна з пражэктам пабудовы камунізму) — гэта адзіная на Беларусі і, відаць, толькі на Беларусі бездакорна выкананая праграма: асімілятарства. І выканана не нейкімі там прыблудамі-чужынцамі, усходнімі ці заходнімі «вучонымі». Але — рукамі саміх тутэйшых, дакладней, іхніх наваяўленых паноў і падпанкаў у мікіта-зноскавым абліччы.

Цяперашні Зносак — гэта ўжо зусім іншы, ад свайго папярэдніка якасна адметны тып. Вядома, улада мяняе чалавека. Зносак-сучаснік адным зубаскальствам над беларушчынай ужо не абмяжоўваецца. Ён, калі што не па ім, прыткі па зубах даць цяперашнім Здольнікам, каб не вельмі высоўваліся «з языком» беларускім. Згадаць хоць бы зубатычыны вучням — гукальнікам вясны на Траецкім прадмесці ў красавіку 1986, альбо глум паліцэйшчыны над удзельнікамі «Дзядоў» у кастрычніку 1988.

Словам, Зносак — пры ўладзе. На ўладу ж — няма рады. Яе трэба шанаваць, чаму здавён вучаны і прывучаны беларус. Вось і вытварылася гэткае стабільнае самакіраванне (суверэннае!) тутэйшасці дзеля тутэйшасці — супраць нацыянальнасці, супраць беларускасці. Некалішняе «беларуска»-парадыйнае мікітава асэсарства на бытавым узроўні ўзведзена да рангу вышэйшай палітыкі: «дзяйсцвіцельна народ свой любіць моўча, как гэта паложана ў вобшчастве». Так нарадзілася і... выродзілася знасілаўшчына — беларуская разнавіднасць нацыянальнага самапрыніжэння і самазгубы — у трагікамічны «фірмавы», а па сутнасці таўровы знак Беларусі. Са славутым: «того желает население».

Што да пажаданняў насельніцтва, то яму толькі й засталося: ушчуваць, упрошваць сваіх санавітых наглядчыкаў, каб тыя загаварылі па-беларуску. Упрошванне на розныя лады — ад маўклівага, прыцішанага да громагалоснага (пад цяперашнюю так званую галоснасць) — доўжыцца з ладнае паўстагоддзе. Зрухаў — нуль.

Вельмі ж Зносак (Крывулька) у поўсць увабраўся, хрыбтом забурэў, каб праймацца нейкімі там просьбамі-жалямі беларускімі. Што яму — поліўка патлусцее, у карыце прыбудзе «ад языка» вашага беларускага? «Нічаво! Нічаво! Галоўнае, народ наш любіць». Вось і любіць сабе, як любіў на працягу сямідзесяці гадоў,— «моўча і рашыцельна». Крыж у Курапатах, вароніны гнёзды на цэрквах, друз і смецце на месцы замкаў, палацаў, скалечаная нацыянальная тапанімія, акалечаныя душы дзетак беларускіх, што ўжо рэдка дзе нараджаюцца і падрастаюць пад беларускае слова — доўгі і бясконцы вопіс змрочных сімвалаў тае змрочнай «любові». Ды ён зноў сабе любіць, гатовы «к рашыцяльнаму атпору» розным дэмагогам, адшчапенцам, здатным усумніцца ў сумленнасці і беларускасці нашага народалюбцы ці, крый Божа, пахіснуць пад ім... троннае крэсла.

Ды як жа даць рады тубыльцам (пакуль не захліпнуліся ў зноскавых адбымках)? Трэба смяяцца! Выпрабаваная вякамі зброя беларуса.

Не, я не заклікаю ўсе восем мільёнаў суайчыннікаў — тых восемдзесят працэнтаў насельніцтва Беларусі, што наперакор зацятаму асімілятарскаму шалу ўпарта называюць сваю родную мову роднай — зайсціся ўсеагульным рогатам адчаю. То сапраўды азначала б трагічны скон народа і канчатковы трыумф зноскаў з-пад «шастога» ці якога там мікрафона. Хачу толькі нагадаць добра вядомы гісторыка-літаратурны факт: падчас павальнае чумы людзі ратаваліся і смехам.

Будзем жа смяяцца. Каб вытрываць. Выжыць. А з часам — перамагчы. І за гэты ўрок аптымізму аўтару «І смеху і грэху» — хоць і стоенаму за крыптанімам не з самых удалых — вялізны дзякуй.

**ЛЯМЕЦ.**

# ТАК ТРЫМАЦЬ!

*Скажу шчыра: зачакаўся я нумара «Нашага слова». Канчаецца люты, а яго ўсё няма ды няма. Але вось сёння ў паштовай скрынцы сярод іншых беларускіх газет убачыў і «Наша слова» — нарэшце! Уразіла змена фармату. У лепшы бок, зразумела. Бюлетэнь стаў газетай. І ўсё ж галоўнае для нас, чытачоў, не форма выдання, а змест.*

*Ён у першым нумары ўдаўся. Калі так пойдзе і далей, то «Наша слова» для мяне стане самай чаканай газетай з Бацькаўшчыны, далібог!*

*Прачытаў увесь нумар літаральна «залпам», як сеў чытаць, так і не ўстаў з-за стала, пакуль не дачытаў апошняга радка. Назаўтра перачытаў некаторыя з матэрыялаў, якія здаваліся мне найбольш цікавымі: «Радасць адкрыцця наперадзе» — да 130-годдзя з дня нараджэння Я. Ф. Карскага і ягоную працу (з нецярплівасцю буду чакаць працягу); вершы Ларысы Геніюш «Мы народ», «Бог адняў розум», матэрыялы рубрыкі «Рэха», «З лякарні спадара Алеся», «І смех і грэх».*

*Вялікі дзякуй Ко-Ко, які «застэнаграфаваў» выступленне «Рыгора Андрэевіча Крывулькі»... Так трымаць і далей!*

*Затым прынёс «Наша слова» ў школу, і яго чытаюць мае калегі-ўкраінцы. Для іх няма праблем з разуменнем беларускамоўных тэкстаў (няхай пачырванеюць тыя жыхары Беларусі, якія цураюцца мовы Скарыны). Першыя водгукі — станоўчыя.*

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг, выкладчык рускай мовы і літаратуры, г. Ізяслаў Хмяльніцкай вобласці Украіны.**

# З КОЛА ЦЁТЧЫНАЙ СЯБРЫНЫ

Сёлета спаўняецца сто пятнаццаць гадоў з дня нараджэння беларускай паэтэсы-рэвалюцыянеркі Алаізы Пашкевіч — Цёткі. З гэтай нагоды хочацца ўспомніць аднаго з яе блізкіх сяброў Францішка Умястоўскага, вядомага літаратурнаму грамадству па псеўданіму дзядзька Пранук. Аднак не хачу цяпер гартаць энцыклапедычныя старонкі з кароткімі артыкульчыкамі пра гэтага нашаніўскага дзеяча. Бо маю магчымасць пазнаёміць чытачоў з адной цікавай, амаль невядомай шырокаму колу нататкай «Францішак Умястоўскі — адзін з піянераў Беларускага Адраджэння», напісанай Язэпам Барэйкам для эміграцкай прэсы («Зважай», № 4, 1986).

Прыводжу гэты артыкул з невялікімі скарачэннямі, папярэдне нагадаўшы, што доўгі час да асобы Ф. Умястоўскага ў нас адносіліся даволі тэндэнцыйна. Таму артыкул з часопіса «Зважай» у пэўным сэнсе будзе невялічкім адкрыццём яшчэ аднаго Цётчынага сябра:

«Біяграфічныя звесткі пра Францішка Умястоўскага такія ж няпоўныя і фрагментарныя, як і пра многіх іншых беларускіх адраджэнцаў-нашаніўцаў...

Як вядома, першы нумар «Нашай Долі» адкрываецца вершам Цёткі «Наш палетак» і рэдакцыйным артыкулам Умястоўскага «Да чытачоў», як тады гаварылася, «Да чытацеляў». Абодва яны заклікаюць беларускі народ да нацыянальнага адраджэння. Цётка, прытрымліваючыся вядомага дэвізу беларускага нацыянальнага руху. «Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі». А Францішак Умястоўскі дапаўняе яе, кажучы, што гэта трэба рабіць праз асвету, праз кніжку ў роднай мове. «Дайце беларусу гэтую кніжку, каб ён разумеў, што ў ёй напісана. Толькі кніжка, напісаная на мове бацькоў яго, патрапіць сноп свету закінуць у цяжкое жыццё беларуса, толькі яна патрапіць холад і голад выкінуць з мужыцкае хаты, толькі яна пакажэць яму дарогу да лепшае, яснейшае долі».

...Умястоўскі вельмі добра ведаў сям'ю Пашкевічаў і з усімі Пашкевічамі сябраваў. Асабліва блізкім было сяброўства Францішка Умястоўскага з братам Цёткі Вацлавам Пашкевічам. «Вацлаў Пашкевіч,— піша ў сваіх успамінах пра Францішка Умястоўскага Калодка (гл. «Зважай» № 19),— быў уласнікам невялікага маёнтка Стары Двор каля Васілішак. Перад Другой сусветнай вайной ягоная дачка Гэля (г. зн. пляменніца Цёткі) вучылася ў віленскай польскай гімназіі. Вацлаў Пашкевіч некалькі разоў у год брычкай прыязджаў у Вільню, прывозячы дачцы розныя прысмакі. Ён заўсёды затрымліваўся ў Умястоўскага, які супольна з дзвюма швагеркамі меў велізарны дом і некалькі гектараў зямлі насупраць праваслаўнага могільніка на вуліцы Бэліны».З успамінаў Калодкі, які пазнаёміўся з Францішкам Умястоўскім у канцы 1926 года, можна даведацца больш дэталяў біяграфіі Умястоўскага. Гэтак, прыкладам, апрача выдання літаратурна-грамадскага часопіса «Беларуская культура», Францішак Умястоўскі выдаваў і рэдагаваў таксама газету «Беларускі Дзень», пра што «Беларуская Савецкая энцыклапедыя» наогул не згадвае...

Умястоўскі знаў асабіста і сябраваў шмат з кім з тагачаснай польскай урадавай эліты, а ягоны родны брат Станіслаў быў дырэктарам фабрыкі ўзбраення ў Скаржыску і меў шырокія сувязі. Усё гэта дапамагло пазней Францішку Умястоўскаму ўратаваць ад пагібелі ў савецкіх канцлагерах выдатнага беларускага драматурга Францішка Аляхновіча, які ў верасні 1933 года быў выменяны на аўтара «Беларускай граматыкі», выдатнага беларускага вучонага-філолага прафесара Браніслава Тарашкевіча. «І Францішак Аляхновіч, і Францішак Умястоўскі,— зазначаў аўтар успамінаў,— загінулі ад бальшавіцкіх куляў. 3-га сакавіка 1944 года Аляхновіча застрэліў бальшавіцкі агент у Вільні. Францішак Умястоўскі як афіцэр рэзэрву польскай арміі быў у 1939 годзе пакліканы на актыўную службу, пасля акупацыі Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй,18-га верасня ўзяты ў «палон», інтэрнаваны ў Казельску, а ў 1940 годзе быў зліквідаваны ў Катыні разам з тысячамі іншых афіцэраў...»

Аўтар успамінаў падае яшчэ адзін цікавы факт з біяграфіі Францішка Умястоўскага, звязаны з яго сынам Уладзімірам, што некалькі год перад вайною працаваў у польскім консуляце ў Мінску. «У 1938 годзе,— піша Калодка,— на банкеце ў консуляце Уладзімір Умястоўскі, які добра ведаў беларускую мову, меў нагоду сядзець пры стале побач з Янкам Купалам, з якім Францішак Умястоўскі калісьці сябраваў, працуючы ў «Нашай Долі» і «Нашай Ніве». Купала вельмі ўсцешыўся, што пазнаў асабіста сына свайго прыяцеля Пранука Умястоўскага. І дзіва няма, бо як для Купалы, так і для Умястоўскага, Цёткі, для ўсіх грамадаўцаў-нашаніўцаў, існаваў, як сказалі, адзін і той самы лозунг, іх аб'ядноўвала адна і тая самая платформа — адраджэнне беларускага народа».

Да гэтага ўсяго дадам толькі, што ў часе рэвалюцыйнага ўздыму 1905 года Цётка і Ф. Умястоўскі прымалі актыўны ўдзел у рэвалюцыйных падзеях і разам з братамі Луцкевічамі, Карусём Каганцом, Алесем Бурбісам былі ў шэрагу самых актыўных дзеячаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады».

Што да ўдзелу Цёткі ў падзеях 1905 года, то гэта агульнавядомы факт. Аднак мне даводзілася чытаць у віленскіх архівах не адну судовую справу пра рэвалюцыйную дзейнасць менавіта Францішка Умястоўскага. Прынамсі, такія Абвінаваўчыя акты захоўваюцца ў фондах знакамітага адваката Фадзея Урублеўскага. Згодна з запісам у гэтай судовай справе, Цётка і Францішак Умястоўскі ў той выбуховы, грозны час былі сябрамі і паплечнікамі ў барацьбе за народную волю.

Валянціна КОЎТУН.

# *Аб нацыянальнасці гародзенцаў*

У апошні час у часопісах, газетах з'явілася вялікая колькасць розных артыкулаў, прысвечаных нацыянальнаму пытанню. Але ў большасці з іх не закранаецца тое, што больш за ўсё цікавіць людзей — нацыянальны склад насельніцтва канкрэтнай мясцовасці.

Я хацеў бы паразважаць аб гэтым у дачыненні да Гародні і Гародзенскай вобласці.

Як вядома з перапісу, на Гародзеншчыне жывуць 65 % беларусаў, 25 % палякаў, 8 % рускіх, каля 2 % астатніх народаў.

Але ўсе мясцовыя людзі добра ведаюць, што падзел на палякаў, беларусаў ідзе толькі па веравызнанню. Усе палякі — католікі, а ўсе беларусы — праваслаўныя. Старыя людзі нават не ведаюць назвы вераў, яны кажуць: руская ці польская вера. Акрамя веры, паміж гародзенцамі няма ніякай розніцы. Возьмем для прыкладу вёскі, якія стаяць побач — польскую ды беларускую. Жыхары ў іх маюць адзіны антрапалагічны выгляд, аднолькава працуюць на зямлі, аднолькава гатуюць снеданне, маюць адзіную нацыянальную вопратку, аднолькава святкуюць памінкі, хрысціны, вяселлі. У святы толькі тое, што датычыцца касцёла і царквы, робяць па-рознаму. А галоўнае — усе размаўляюць на адной мове. Мова гэта — беларуская, але з часткай польскіх слоў.

Усё гаворыць аб тым, што гародзенцы — адзіны народ. Але што гэта за народ, вось у чым пытанне.

Паспрабуем паразважаць. Цяпер гародзенцы падзяляюцца па веры, таму паглядзім на нашу гісторыю з боку веры. Спачатку нашы продкі-славяне, якія прыйшлі ў Панямонне, былі паганцамі. Потым яны ўзялі праваслаўнае хрысціянства. У час Рэчы Паспалітай амаль што ўсё насельніцтва нашага краю стала уніяцкім. Напрыклад, жыхары Сапоцкіна, у наш час польскага мястэчка, былі уніятамі і толькі ў канцы XIX стагоддзя перайшлі ў каталіцтва. Калі адбыўся падзел Рэчы Паспалітай і Гародзеншчына адышла да Расіі, то дзяржаўныя ўлады сілком вярталі уніятаў у праваслаўе. У пачатку XX стагоддзя амаль што ўсё насельніцтва Гародзенскай губерні зноў было праваслаўным. Пасля Першай сусветнай вайны Гародзеншчына ў складзе Польскай дзяржавы. Зноў пачалася змена веры. На гэты раз пад эканамічным націскам. Па-першае, за прынянцце каталіцкай веры давалі грошы, якія ўсім заўсёды патрэбныя. А па-другое, католіку лягчэй было зрабіць кар'еру. Як бачым, жыхары нашай мясцовасці тры разы мянялі веру. Калі нацыянальнасць вызначаць па веры, дык усе гародзенцы мелі продкаў як палякаў, так і беларусаў. Падумаем, хто мы. Трэба зразумець, што на Гародзеншчыне жыве адзін народ.

С. БУДНІК.

## *Чыталі?*

### *Беларуская мова і літаратура ў школе*

Штомесячны навукова-метадычны часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе» выдаецца з 1988 года. Заснавальнікам яго з'яўляецца Міністэрства адукацыі БССР. Прыгожае афармленне і цікавы змест прыцягваюць увагу чытачоў і перш за ўсё настаўнікаў. Каб больш падрабязна расказаць пра гэтае выданне, мы запрасілі ў рэдакцыю адказнага сакратара часопіса Івана Ждановіча. З ім гутарыць Любоў Баршчэўская.

Л. Б.: Паколькі Ваш часопіс называецца «Беларуская мова і літаратура ў школе», то, зразумела, што ён разлічаны на настаўнікаў і вучняў старэйшых класаў сярэдніх школ. Пазнаёмце нас, калі ласка, з асноўнымі раздзеламі выдання і, галоўнае, планамі рэдакцыі.

І. Ж.: Сапраўды, наша выданне цікавіць перш за ўсё настаўнікаў. Найбольш скіраваны на іх раздзел «Методыка і вопыт». Тут ідуць матэрыялы як па методыцы выкладання літаратуры, так і мовы. Мы ўвогуле па мажлівасці практыкуем падборкі матэрыялаў па той ці іншай філалагічнай тэме, распрацоўкі ўрокаў, даём нейкія дадатковыя звесткі. Шэраг матэрыялаў у часопісе прысвечаны вывучэнню творчасці пісьменнікаў. Ёсць яшчэ даволі вялікі раздзел «Філалогія». Тут змяшчаюцца матэрыялы па літаратуразнаўству, мовазнаўству. Яны пашыраюць філалагічныя веды, даюць дадатковыя звесткі пра жыццё і творчасць пісьменнікаў.

Багата матэрыялаў, якія пашыраюць кругагляд настаўніка і даюць мажлівасць выкарыстаць тыя ці іншыя звесткі на пазакласных занятках, змяшчаецца ў раздзелах «Міжпрадметныя сувязі» і «Калі закончыўся ўрок». Сёлета мы крыху абнавілі часопіс, і ў раздзеле «Культура Беларусі» вядзём гутарку пра святы народаў Беларусі.

Л. Б.: Цяпер даволі сур'ёзна паўстае пытанне аб дэпалітызацыі школы. Ёсць розныя меркаванні. Ці закранаеце вы гэтыя праблемы?

І. Ж.: У матэрыялах, якія выкарыстоўваюцца на ўроках, мы імкнёмся скіраваць настаўніка, дзяцей на агульначалавечыя каштоўнасці. Бо калі ў дзіцяці сфарміраваны пэўны маральны і этычны патэнцыял, то на ім можна нарошчваць потым усё астатняе. Калі гэтага няма, дзіця будзе проста, як сказаў Булгакаў, «чалавекам з сабачым сэрцам», яму можна будзе навязваць любую ідэалогію, і для яго нішто не будзе святым.

Л. Б.: Любое перыядычнае выданне мае сваю спецыфіку, свае асаблівасці. У чым складанасць менавіта Вашага часопіса?

І. Ж.: Яго спецыфіка і складанасць у тым, што мы не можам падрыхтоўваць матэрыялы і патроху выдаваць, як гэта робяць у іншых часопісах. Мы вымушаны браць школьную праграму і глядзець, які матэрыял патрэбен на ўрок сёння. Калі ж не паспелі, то ён пойдзе толькі праз год.

Л. Б.: Цяпер ідзе падрыхтоўка трэцяга нумара, так? Некалькі слоў пра яго змест.

І. Ж.: **«Работа над памылкамі 1933 года» — артыкулам пад такой назвай, які прысвечаны праблемам удасканалення беларускага правапісу, адкрыецца наш трэці нумар. Шэраг матэрыялаў, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча, выходзіць пад рубрыкай «У вянок Максіму». Юбілей гэты, як вядома, будзе адзначацца ў снежні, але часопіс друкуе артыкулы, рэдкія фотаздымкі з архіваў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча з самага пачатку года.**

Тыя, хто неабыякавы да паэзіі, з цікавасцю прачытаюць працяг артыкула пра маладых беларускіх вершатворцаў. Ірына Багдановіч, Галіна Булыка, Леанід Галубовіч і іншыя, пра каго ідзе размова ў публікацыі, ужо не навічкі ў паэзіі.

Л. Б.: Пра што важнае я яшчэ не запыталася?

І. Ж.: Пра падпіску на часопіс. Каго вельмі зацікавіла наша выданне, той яго можа знайсці толькі ў бібліятэках. У кіёсках часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе» практычна не бывае. Але на яго можна падпісацца ў любым аддзяленні Саюздруку. Кошт — 7 рублёў 20 капеек на год. Спадзяюся, той, хто стане нашым пастаянным чытачом, не расчаруецца.

Гутарыла з госцем
Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

## *Мяркуюць мовазнаўцы*

# Пазычанае слова

Людзі кажуць: *пазычай — гадкі звычай; пазыка ходзіць без языка; аддай рукамі, а хадзі нагамі; я свістаў, пакуль дастаў, а ты пасвішчаш, пакуль сышчаш.* Гэтыя прыказкі выказваюць чалавечыя адносіны да пазыкі, асуджаюць яе, бо ў выніку пазыкі ўзнікае залежнасць паміж людзьмі: пазычанае трэба аддаваць ды яшчэ з працэнтамі. Але і без пазыкі не абысціся, калі з нечым нявыкрутка.

Што ж пазычаюць? Пазычаюць усё, чым толькі карыстаецца чалавек у жыцці. Пазычаюць нават слова. Мабыць, няма на свеце такое мовы, якая не пазычала б з іншых моў. Пазыка ў мове вельмі адрозніваецца ад матэрыяльнай пазыкі: пазычанага слова не трэба аддаваць. Мова, з якой пазычылі, не мае ніякіх прэтэнзій да мовы, якая пазычыла, да таго, як яна абжывае, прыстасоўвае пазычанае слова.

Калі мы пазычаем слова? Натуральны працэс, калі да нас прыходзіць нейкі прадмет, прылада ад другога народа, а разам з ім і яго назва. Напрыклад, ***бігудзі*** (з французскай), ***джынсы*** (з англійскай), ***жыгулі*** (з рускай). Гэтыя словы хутка прыжыліся ў нашай мове, нават не адчуваецца, што яны пазычаныя. Апраўданыя пазычаныя словы ў перакладах: з дапамогай іх ствараецца пэўны мясцовы каларыт: *Шуміць травой халодная **паланіна**. Каціўся зялёнымі **царынкамі*** (з М. Кацюбінскага). Гуцульскія словы ***паланіна*** (высакагорны луг) і ***царынка*** (абгароджаная сенажаць каля хаты) не перакладзены знарок — яны памагаюць нам лепш убачыць і зразумець жыццё гуцулаў.

Апраўданыя пазычаныя словы і ў арыгінальных мастацкіх творах, у якіх апісваюцца іншыя краіны, іншыя народы. Многія назвы, асабліва этнаграфічныя, у такіх творах не перакладаюцца.

Але часта мы пазычаем словы без патрэбы. У той год, калі ў нашай краіне была чарговая кампанія — нарыхтоўвалі жывёле венікі замест сена на зіму,— адна рэспубліканская газета наша пісала, што добра папрацавалі ***чабаны*** Стаўбцоўскага раёна. Нешта падобнае прачытаў я ў маладога нашага празаіка: *Па небе пабеглі белыя, як атары **авечак**, хмары.* Словы ***чабаны, атары*** з цюркскіх моў. Калі б мы пісалі, скажам, пра кіргізаў, то гэтыя словы маглі б ужыць дарэчы. А ў прыгаданым кантэксце трэба карыстацца сваімі словамі — ***пастухі*** і ***чароды.***

Актывізацыя беларускай мовы, шырэйшае выкарыстанне яе апошнім часам у розных сферах грамадскага жыцця, далучэнне да яе людзей з рознаю падрыхтоўкаю засведчылі і агульнае зніжэнне яе культуры. Без патрэбы сталі пазычацца шматлікія словы з блізкай нам рускай мовы, знізілася культура мовы на радыё, тэлебачанні, у нашых часопісах і газетах. Некалькі прыкладаў: *Няма жадаючых паехаць зімою ў санаторый. Па 7 кг мяса на кожнага **працуючага**. Дапамога павінна быць **стымулюючай**. У **русле** новых задач. Недзе я чытаў, што ёсць мікраарганізмы, якія могуць існаваць толькі ва **ўгарным** газе. Адзін з парасткаў фасолі яшчэ ў зямлі прайшоў праз **засцёжку** раменьчыка. Адну **страку** я прачытаю. Ну вось, з другой **папыткі** пункт прыняты. Але ж патрэбна **любячае** сэрца. Армія — гэта **дорага каштуючы** пераЖытак.* Замяніць пазычаныя словы сваімі ( ***ахвотнікаў, працаўніка, стымуляваць, рэчышчы, у чадным, спражку, радок, спробы, шчырае, дарагі)*** — і тэкст перайначыцца, будзе чытацца нармальна. Бяда толькі, што ў тых тэкстах (чутых і чытаных) нічога ўжо не зменіш, дый тэкстаў гэтых поле нясеянае. А яшчэ большая бяда, што радкі гэтыя ўзяты з тэкстаў нашых пісьменнікаў і журналістаў.

Бясспрэчную шкоду прычыніла нам аб'яўленая КПСС палітыка зліцця моў, стварэння на тэрыторыі СССР адзінай мовы. З беларускай мовы гвалтоўна выганяліся самабытныя беларускія словы, замяняліся рускімі. Тысячы беларускіх слоў не трапілі ў слоўнікі, пазычаліся чужыя словы, формы слоў, а свае аб'яўляліся «нацыяналістычнымі элементамі». Дый самі слоўнікі па 30 гадоў не выдаваліся. Невыпадкова ў «Руска-беларускім слоўніку» (1982) вельмі многа слоўдублетаў: ***афіцыйны-афіцыяльны; прафесійны-прафесіянальны; аловак — карандаш; страта — урон; ахвотнік — жадаючы; давер — давер'е; цараваць — царстваваць; сталоўка — сталовая; кірунак — напрамак; чутно — чутна; патрэба — неабходнасць; стрэльба — ружжо; разам — сумесна*** і іншыя. А якому слову аддаваць перавагу? Ведама, свайму, тутэйшаму.

А калі ўзяць складана-скарочаныя словы. І яны без патрэбы пазычаюцца з рускай мовы: ***партком, мясцком, Дзяржкампром, Дзяржснаб, Дзяржэканомплан, Дзяржсельгаспрод, Бельляспром.*** Палітыка зліцця моў бачыцца праз гэтыя словы надзвычай выразна. І сёння яна не спынілася: прыклады ўзяты са «Звязды» за 23 лютага 1991 года.

Сваё слова ніколі не бывае горшае за чужое, без патрэбы пазычанае, бо яно сваё. Дык і карыстацца ім трэба нікога не баючыся.

В. РАБКЕВІЧ.

## З лякарні спадара Алеся

### АПЁКІ

1. Пры апёках як хуткі сродак лячэння выкарыстоўваюць лопух, прыкладаючы яго да хворага месца ніжняй часткаю.

Запісана ад Сяргея Ралейніка з Гудзевічаў.

2. Здрабнёную масу каланхое прыкласці да апечанага месца. Даслала ў музей аграном Раіса Адэкава.

3. Пры апёках прыкласці да апаленага месца лісце свежай капусты.

4. Пры апёках і гнойных язвах на ноч прыкласці анучку, намочаную ў ражанцы.

5. Пчаліныя соты кіпяціць у сланечнікавым алеі і змазваць апаленую скуру.

6. Пры апёках (а таксама пры язвах, трафічных свішчах — нават у такой стадыі, калі мяса адвальваецца ад косці) ужываюць наступны лек.

Па 100 грамаў сасновай жывіцы, свінога ўнутранага сала, пчалінага воску. Усё пракіпяціць. Спачатку рану прамыць вапнавай вадою (адна сталовая лыжка нягашанай вапны на адзін літар вады), затым пакласці павязку з прыгатаванай маззю. Зрабіць гэтак тры-чатыры разы.

7. Драную сырую бульбу закручваюць у марлю і прыкладаюць да апаленага месца. Вылечваюцца цяжкія апёкі.

8. Вось што расказаў Іван Дзікевіч з вёскі Ашмяны Жалудоцкага сельсавета:

«Было мне дванаццаць гадоў. Зімовым днём я прыкурваў ад жару цыгарку. Дастаў трэсачкай вугалёк. Спяшаўся, бо хаваўся з курэннем. Чыркануў трэсачкай—і жарына паляцела мне ў твар.

Мама пайшла да рэчкі Лебяда (яна ўпадае ў Нёман). Было холадна, ляжаў снег, то мама не лезла ў рэчку, а граблямі выцягнула шлункі (гэтак у нас называюць у сярэдзіне белыя, а зверху цёмныя з палоскамі ракавіны, якія нагадваюць лыжкі без ручак). Прынесла некалькі шлункаў, кінула іх у жар, потым расцёрла на парашок. Гэтым парашком я пасыпаў рану тры-чатыры разы. Усё зажыло надта хутка».

9. Піць крамянёвую ваду і абмываць ёю апечаныя месцы.

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў СВЕЦЕ

«Беларус» — газета на беларускай мове, якая выдаецца адзін раз на месяц Беларуска-Амерыканскім Задзіночаннем у ЗША. З кожным годам расце цікавасць беларусаў усяго свету да гэтага выдання. На вялікі жаль, да нас «Беларус» даходзіць са значным спазненнем, таму толькі сёння мы маем магчымасць прапанаваць кароткі агляд снежаньскага нумара.

На першай старонцы змешчана «Каляднае архіпастырскае пасланне» архіепіскапа Мікалая, Першага Іерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Канадзе ўсім праваслаўным вернікам Беларускага Народа. Нельга без хвалявання чытаць наступныя радкі: «Дарагія мае Браты і Сёстры, нашу краіну, наш народ наведалі два вялікія няшчасці. Адно — гэта выбух Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, які затруціў наш народ і блізу ўсю тэрыторыю Беларусі. Гэта няшчасце фізічнае: пагроза здароўю, калецтва, хваробы. Але ёсць і другое няменш страшнае знішчэнне — гэта знішчэнне нашае мовы, гісторыі і культуры, інакш кажучы, знішчэнне нацыянальнае свядомасці. «Браты і Сёстры, у дзень нараджэння Хрыстова радуйцеся, бо Хрыстос і да нас зыйшоў. Радуйцеся тым, што першае надрукаванае Св. Пісьмо ва ўсходніх Славянаў было на нашай святой беларускай мове. Радуйцеся слаўнай гісторыяй нашай дзяржаўнасці ў пару Княства Полацкага і за часамі Вялікага Княства Літоўскага. Радуйцеся вялікай радасцю, што наш святы Беларускі народ ажывае ў сваіх імкненнях да свабоды...»

Артыкул Адама Мальдзіса «Адзін з першых беларускіх духоўнікаў» прысвечаны жыццю і самаадданай дзейнасці прэлата Фабіяна Абрантовіча. Звесткі аб ім, сабраныя аўтарам з розных крыніц, уяўляюць каштоўнасць менавіта сёння, калі адраджаецца беларускі нацыянальны касцёл.

У верасні афіцыйнымі гасцямі ў Мінску і Полацку на 7-дзённых святкаваннях скарынаўскага 500-годдзя былі два брытанскія беларусазнаўцы — прафесар Джэймс Дынглі і адвакат Гай Пікарда. Яны падзяліліся з «Беларусам» сваімі ўражаннямі і назіраннямі. З інтарэсам чытаюцца фрагменты з дзённіка Гая Пікарда «На скарынаўскіх святкаваннях».

У гэтым жа нумары чытач знойдзе адказ Зянона Пазьняка, старшыні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне» і лідэра Дэмакратычнай апазіцыі ў Вярхоўным Савеце БССР, на пытанне: «Як Вы ставіцеся да артыкула А. Салжаніцына «Як абладзіць Расію». «Салжаніцын,— зазначыў З. Пазьняк,— падняў з навуковага небыцця стары імперскі хлам, гістарычна неабгрунтаваную і абразлівую для Беларусаў і Украінцаў тэзу аб адзінай і непадзельнай Расіі, адмаўляючы Беларусам і Украінцам у дзяржаўнай незалежнасці».

18 лістапада Згуртаванне Беларусаў Канады святкавала Дзень Герояў Беларусі. На гэтае свята з'ехаліся беларусы ўсіх краёў. Урачысты сход адкрыў старшыня Згуртавання Беларусаў Канады сп. М. Ганько. У яго дакладзе гаварылася пра векавое змаганне беларускага народа за сваю незалежнасць, была ўшанавана памяць не толькі аб паўстанцах Кастуся Каліноўскага, але і пакутніках Курапатаў і Чарнобыля. Пра ўсё гэта падрабязна расказваецца ў артыкуле Раісы Жук-Грышкевіч «Дзень Герояў Беларусі».

У гэтым нумары зроблены таксама агляд польскага друку, у якім уздымаецца беларускае пытанне. А з артыкула Юркі Ляшчынскага «Для польскіх наведнікаў Беларусі» можна даведацца пра кнігу «Беларускія міні-разгаворы», якая выйшла ў Польшчы. Яна разлічана на польскіх турыстаў, што выязджаюць на кароткі час у Беларусь.

Пра візіт беларускіх дзяцей з Мінску ў Лондан расказвае Барыс Рагуля. Дзеці былі гасцямі Оўкрыджскай сярэдняй школы горада Лондана (у правінцыі Антарыо). «Спатканне з дзецьмі,— піша аўтар,— было вельмі эмацыянальнае. Калі дырэктар школы запрасіў мяне сказаць пару слоў... я пачаў па-ангельску, падзякаваўшы школе за зацікаўленне дзецьмі з Беларусі, а пасля па-беларуску звярнуўся да дзяцей. Цяжка апісаць глыбіню іхняе рэакцыі — пачуўшы раптам беларускае слова, яны спантанічна выбухнулі воплескамі. Тады калі настаўнікі іхнія гаварылі па-расейску, дзеці загаварылі да мяне на чыстай беларускай мове. Акружыўшы нас, дзеці закідалі пытаннямі аб беларусах у Канадзе, беларускім жыцці, аб поглядах канадскіх Беларусаў на жыццё ў Беларусі...»

Як бачым, нашы суродзічы за мяжой у курсе ўсіх падзей, якія адбываюцца на Бацькаўшчыне, яны разам з намі перажываюць фізічны і духоўны Чарнобыль, не забываюцца на сваю родную мову, гісторыю і культуру і марaць пра той час, калі Беларусь стане сапраўды свабоднай і суверэннай.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

## *Ахвяравалі*

на Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

| | |
|---|---|
| А. Петрашкевіч з Мінску | 25 рублёў |
| К. Юркавец з Бабруйску | 10 рублёў |
| В. Ермаловіч з Мінску | 100 рублёў |
| А. Царыкава з Мінску | 100 рублёў |
| Г. Шэйка з Брэста | 60 рублёў |
| І. Гапаненка з Віцебскай вобл. | 10 рублёў |
| Ю. Кірылаў | 100 рублёў |
| Н. Ляўкоў з Севастопаля | 40 рублёў |
| І. Марозаў з Віцебскай вобл. | 2 рублі |
| Міхась Вераціла з Гродзенскай вобл. | 50 рублёў |

| | |
|---|---|
| М. Жолуд з Лагойску | 50 рублёў |
| Савет Федэрацыі прафсаюза Беларусі | 3000 рублёў |
| Мінскі абком прафсаюза работнікаў АПК | 1000 рублёў |
| Магілёўскі абком прафсаюза работнікаў леспаперадрэўпрам | 200 рублёў |
| Гасцініца «Турыст» | 100 рублёў |
| Кафедра беларускай літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута | 60 рублёў |
| Рэдакцыя газеты «Маяк» | 30 рублёў |

Дзякуй!

## *І смех і грэх*

### ДЫЯЛОГІ НА ВЯСКОВАЙ ЛАЎЦЫ

— Гаворaць ля, гавораць-гавораць! То сэсіі ў іх, то з'езды, то хвярэндумы... А тутака хоць лапці пляці — няма ў што ўступіцца.

— Ат, не бяры да сэрца — сабе даражэй! Гавораць — хай гавораць: губа ні ў кога не замкнёна. Мо выгаварацца, дасць бог.

* * *

У агародзе старая поле клубніцы. Побач на траўцы загарае яе нявестка з горада.

Суседка з лаўкі, цераз плот:

— А што ж ты, дзіцятка, не памагаеш мацеры?

— Не работнікі!

— А бо-о-жа-а-чка!.. Напраўду людзі кажуць: як горад, так іначай гонар.

* * *

— Ці паверыш, кумка? Гэта ж Нюшчын зяць саўсім совясць згубіў: 25 рублёў (!) узяў, што з хворым дзіцем у больніцу падкінуў. Нейкіх тры кіламетры...

— У-ей, здзівіла! Каб хто... А гэты... Чаго не мае, таго не згубіць.

* * *

— А што гэта, Зосечка, ужо робіцца, а што чыніцца! Анічагуткі ў магазіне! Ходзіш-ходзіш — ногі змуляеш, а паесці — як бог дасць.

— А я во не бядую: мне хватае. Каб сыр ды масла, варэнікаў наляпіла б. Шкода толькі, мукі нямашака.

* * *

— Анэля, радуйся! Дабаўку да пенсіі палучым!

— Хай бог дае! А з якой жа, бобка, нагоды? Не чула я нешта.

— А што па-сваему гаворым!

— Дальбог, плявузгаеш абы-што! Ну і дзе ты такое падчапіла?..

— Падчапіла, падчапіла... Надоечы з Мінску Анюціна вучыцелька прыехала, то кажа, што ў горадзе за беларускую мову ўжо пятнаццаць процантаў даюць...

Учула Любоў ЛАМЕКА.

### Ліст у рэдакцыю

СУРОВАЯ ТАЙНА МАЙГО ПСЕЎДАНІМА

Тым, хто напісаў або збіраецца напісаць ліст у рэдакцыю, каб запытацца, чаму я ўзяў гэткі няўдалы псеўданім, адказваю: суровая тайна майго псеўданіма ў тым, што гэта зусім не псеўданім, а маё сапраўднае прозвішча. Узнікла яно ў выніку незаконнага шлюбу аднаго карэйскага вядомага палітычнага дзеяча з нашай савецкай гераіняю сацыялістычнай працы. Я разумею, што з маім прозвішчам лепей было б пісаць ананімкі на свайго начальніка, але начальнік не баіцца аніякіх ананімкаў, бо сябруе яшчэ з адным начальнікам. Гэта несумленна з боку згаданых начальнікаў. Таму я адмовіўся ад пісання ананімкаў у несправядлівых умовах і ўлёг у справы літаратурныя. Я мяркую, займацца літаратураю сёння больш выгодна: пакуль што яе яшчэ не забаранілі пастановаю гэтак, як ананімкі.

Ваш Ко-Ко.

## АБ'ЯВЫ

### Паважаныя чытачы «Нашага слова»!

Нагадваем тым, хто не падпісаўся на газету Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, што гэта вы можаце зрабіць у арганізацыях «Саюздруку» або ў любым аддзяленні сувязі СССР. Падпісацца можна на астатнія месяцы 1991 года. Індэкс выдання 74975. Кошт аднаго нумара па падпісцы — 5 капеек.

Выпісвайце і чытайце «Наша слова»! Дасылайце на адрас рэдакцыі допісы, артыкулы і іншыя матэрыялы, звязаныя з адраджэннем беларускай мовы, нацыянальнай культуры і гістарычнай спадчыны.

### ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Паведамляем, што Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны дзеля ажыццяўлення мэтаў, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і прыватных асобаў як на Беларусі, так і ў СССР, і за мяжой.

Наш цэнтральны рахунак 700510 у Белжылсацбанку.

Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку СССР.

### Да ведама чытачоў

У канцы сакавіка — пачатку красавіка г. г. выходзіць з друку «Руска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй В. Ластоўскага. Слоўнік можна будзе набыць у кіёску Таварыства беларускай мовы (Ленінскі пр-кт, 18), «Кнігарні пісьменніка».

Папярэдні кошт 5 рублёў.

Даведкі па тэлефоне 33-25-11.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:

Рэдактар Эрнэст Ялугін.

Сябры калегіі: Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Ігар Лапцёнак, Генадзь Мацур, Зьміцер Санько, Мікола Супрановіч, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.

Тэлефоны рэдакцыі: 37-17-83, 33-25-11.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.714 паасобнікаў. Заказ 2436. Індэкс 74975.